# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№5 (240)
май 2022



Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### Гарадзенка Леся Руднік атрымала ўзнагароду "Еўрапеец года"

Узнагарода даецца людзям, якія ўклалі ўнёсак у супрацу паміж народамі Еўропы для ўмацавання свабоды і міра.

Старонка 3

### Беларуска Лілія Яноўская ўзняла беларускі сцяг на Эверэст

Беларуска Лілія Яноўская падняла беларускі сцяг на Эверэст. Разам з дачкой Дар'яй у складзе каманды альпіністаў яна паднялася на самую высокую вяршыню свету 14 мая.

Старонка 8






# ТЭЛЕГРАМ-БОТ ЗНАХОДЗІЦЬ БЕЛАРУСКІЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПА ЎСІМ СВЕЦЕ. ДАЛУЧАЙЦЕСЯ!

"Будзьма беларусамі" запускае тэлеграм-бот "Будзьма разам!", які дапаможа падпісчыкам незалежна ад месца пражывання даведацца пра цікавыя беларускія мерапрыемствы ў сваім горадзе, краіне і нават па ўсім свеце!

Ад 2020 года Беларусь зазнала масавую хвалю эміграцыі. Безліч нашых суродзічаў на ўласным досведзе зразумелі, як цяжка на новым месцы ўліцца ў мясцовае жыццё, адшукаць сяброў ды паплечнікаў, не згубіць сувязяў з беларускім асяродкам. З нашым ботам больш няма патрэбы па крупінках у розных сацсетках шукаць інфармацыю пра беларускія падзеі – трэба проста выбраць у боце новы горад і падпісацца на абнаўленні. Мы максімальна акумулюем інфармацыю, а вы будзеце атрымліваць пуш-паведамленні і зможаце наведаць беларускія мерапрыемствы, на якіх пазнаёміцеся з суайчыннікамі, усталюеце кантакты, знойдзеце аднадумцаў.

Але наш бот не толькі для тых, хто з'ехаў, ён і для беларусаў на Радзіме. Бот не толькі дасць вам разуменне, колькі ўсяго беларусы робяць па розных краінах, але і своечасова нагадае пра цікавыя падзеі ў розных гарадах Беларусі і дапаможа адчуваць повязь з іншымі, калі здаецца, што ўсе з'ехалі і нічога не адбываецца.

Падпісаўшыся, вы будзеце атрымліваць паведамленні пра беларускія падзеі самага рознага кшталту: культурніцкія, асветніцкія, праваабарончыя, антываенныя і інш. – у сваім горадзе, рэгіёне або па ўсёй краіне. Канцэрты і выставы, спектаклі і фестывалі, вечарыны і прэзентацыі, лекцыі і семінары, акцыі салідарнасці – усё, што ладзяць беларусы ў розных краінах свету, будзе акумуляваць наш бот.

Карыстацца ім вельмі проста: выбірайце той ці іншы горад або ўсю краіну, падпісвайцеся асобна на ўсе анлайн-мерапрыемствы ці выбірайце варыянт all inclusive – усе беларускія падзеі свету (у тым ліку і анлайн-мерапрыемствы). А пасля – сачыце за беларускім дзвіжам і далучайцеся!

На сёння ў боце знойдзеце абвесткі пра падзеі ў Беларусі, Польшчы, Літве, Латвіі, Германіі, Грузіі, Вялікабрытаніі, Чэхіі, ЗША. З вашай дапамогай мы спадзяемся пашырыць бот, каб ён стаў карысным як мага большай колькасці беларусаў/ак і ўключаў як мага болей краін і гарадоў.

Калі вы арганізатар нейкага мерапрыемства альбо ведаеце, што ў вашым горадзе яно будзе, а мы пра яго яшчэ не напісалі, дасылайце ў бот свае абвесткі, а бот падзеліцца імі з усімі карыстальнікамі. Калі ж вашага горада не хапае ў нашым боце – паведаміце, і мы дададзім. Гэта можна рабіць проста праз радок паведамлення!

Наша каманда працавала над ботам доўгі час, але ён, як і любы новы прадукт, можа мець памылкі і багі. Будзем удзячныя за любыя канструктыўныя заўвагі і прапановы. Гэта дапаможа нам зрабіць бот больш дасканалым і зручным для карыстальнікаў. Дарэчы, стварыла бот "Будзьма разам!" распрацоўшчыца чат-ботаў Кацярына Бусел, за што каманда "Будзьма Беларусамі" ёй шчыра дзякуе.

Далучайцеся і дзяліцеся спасылкай на бот з сябрамі ўжо сёння!

Будзьма беларусамі ў любой кропцы свету і будзьма разам!

in memoriam

# ПАМЁР ЯНКА ЗАПРУДНІК

26 траўня ў Нью-Ёрку адышоў у лепшы свет Янка Запруднік, патрыярх беларускай дыяспары, доктар гісторыі, палітолаг, літаратар і публіцыст, сябра Рады "Бацькаўшчыны" ад I З'езду беларусаў свету (1993). Яму было 95 гадоў.



Паводле ўласнага прызнання доктара Янкі Запрудніка, і сэнс, і мэту жыцця ён сам для сябе бачыў адно ў беларускай справе і службе беларускаму народу. Але гэтыя словы падаюцца лішнімі – нават беглы позірк, кінуты на малую долю ягонага даробку, моцна ўражвае.

Янка Запруднік пакінуў Беларусь у 40-х гадах, і ад гэтага часу ягоны жыццяпіс нагадвае энцыклапедыю самых разнастайных і паспяховых формаў беларускай нацыянальнай актыўнасці ў замежжы. Працуючы на шахтах у Вялікабрытаніі, ён зрабіўся актыўным удзельнікам Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі і браў удзел у выданнні часопіса "Наперад!". Навучаючыся на гістарычным факультэце ў Лювенскім універсітэце, быў старшынёй Беларускага студэнцкага згуртавання ў Лювене. Янка Запруднік стаяў ля вытокаў "Радыё Свабода" (тады – беларускай секцыі радыёстанцыі "Вызваленне") і быў галоўным рэдактарам славутай газеты "Беларус". Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага Задзіночання і ўваходзіў у Прэзідыюм Рады БНР. Спалучаючы журналісцкую працу з навуковай дзейнасцю, у 1969-м годзе ён атрымаў ступень доктара гістарычных навук у Нью-Ёркскім універсітэце і чытаў лекцыі па гісторыі Беларусі ў Куінс-каледжы Нью-Ёркскага ўніверсітэту, а таксама Калумбійскім і Ратгерскім універсітэтах. Выдаваў англамоўны бюлетэнь "Facts on Byelorussia". Ад 1974 года ўваходзіў у склад рэдакцыйнай калегіі "Запісаў" Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, браў удзел у безлічы кангрэсаў беларусістаў і з'ездах беларусаў свету, напісаў дзясяткі кніг ("Бібліятэка "Бацькаўшчыны" мела гонар выдаць дзве з іх – "Па гарачых слядах мінуўшчыны: мае лісты 1952–1959 гг." і "Кантакты"). Падаецца, што гэты пералік можна працягваць і ўдакладняць драбнейшымі справамі і дасягненнямі бясконца.

"Бацькаўшчына, калі любіш яе й застаешся на ейнай арбіце, вяртае тваю любоў памножанай", – такія словы доктар Янка Запруднік пакінуў у падарожных нататках падчас наведвання Радзімы ў 2016 годзе. Няхай гэтыя простыя словы мудрага чалавека сёння абадзёраць тых, хто ў няпросты для краіны час гатовы ўпасці ў адчай, а ягоны лёс, поўны нястомнай працы на карысць беларускай культуры, стане ўзорам і арыенцірам.

**Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сваякам, блізкім і калегам Янкі Запрудніка, а таксама ўсім, хто яго ведаў.**



Янка Запруднік на Першым з'ездзе беларусаў свету ў 1993 годзе

# Івонка Сурвілла: Янка Запруднік шмат зрабіў, каб у свеце не забываліся пра беларусаў

Пра аднаго са старэйшых дзеячаў беларускай дыяспары ў ЗША Янку Запрудніка, які памёр ва ўзросце 95 гадоў, узгадвае старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла.

"Вестку пра смерць Янкі Запрудніка ўспрыняла з глыбокім смуткам, бо адышоў у Вечнасць чалавек, якога ведала з юнацтва. У тыя гады спадар Янка быў паплечнікам старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка".

Старшыня Рады БНР адзначыла, што Запруднік быў не толькі знаны гісторык, прызнаны аўтар публіцыстычных артыкулаў, але і актыўны грамадскі дзеяч.

"Цягам сваёй шматгадовай дзейнасці ў Радзе БНР Янка Запруднік вельмі шмат зрабіў для таго, каб у свеце не забываліся пра беларусаў, пра беларускі народ і ягонае права на сваю незалежную дзяржаву, – кажа Івонка Сурвілла. – Я да яго часта звярталася па парады і заўсёды атрымлівала кваліфікаваную дапамогу. Ён быў вельмі адказным чалавекам, а таксама чулым, добрым сябрам. Вечная памяць".

**novychas.online**

# ЯГОНЫМ СЭРЦАМ БЫЛА БЕЛАРУСЬ

"Не стала Янкі Запрудніка. Чалавека, сэрцам якога была Беларусь. Ён пры жыцці стаў легендай беларускай эміграцыі", – напісаў Уладзімір Някляеў на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

"Ягоны наробак у культуры, літаратуры, гісторыі вялічэзны. Не кожнаму падняць. А для мяне ён назаўсёды застанецца найперш паэтам, які выдаў кнігу вершаў у 91 год! Такога ў сусветнай паэзіі і да яго не было, і пасля яго наўрад ці будзе.

Гэта што да паэзіі. А вось тое, што да палітыкі.

Калі ў адзін з ягоных прыездаў у Беларусь мы ўтрох, з намі Генадзь Бураўкін, разважалі, што зрабіць, каб пры антыбеларускай уладзе захаваць Беларусь, ён казаў і казаў:

"Канфлікт вам нічога не дасць. Пры канфлікце сітуацыя не палепшыцца, а пагоршыцца. Бо надта няроўныя сілы. Таму не пакідайце спробаў на ўладу паўплываць".

Было гэта тады, калі і Бураўкін, і я яшчэ мелі такую магчымасць. Калі Лукашэнка на сустрэчы з пісьменнікамі казаў: "Не будзеце ўплываць вы, будуць уплываць іншыя".

Не ўпэўнены, што з гэтага нешта магло выйсці. Але калі азіраюся на далейшае (аж да сённяшняга) развіццё падзей, дык параду спадара Янкі згадваю ўсё часцей.

Апошні раз сустрэліся два гады таму ў Нью-Ёрку. Гаварылі пра культурную катастрофу ў нашай Айчыне. Калі развітваліся, ён сказаў: "Маю надзею, што пабачымся ў Беларусі, у якой любяць сваю мову і сваіх паэтаў..."

Яго не стала.

Надзея засталася".

навіны

# ГАРАДЗЕНКА ЛЕСЯ РУДНІК АТРЫМАЛА ЎЗНАГАРОДУ "ЕЎРАПЕЕЦ ГОДА"

*27-гадовая Леся Руднік атрымала прэмію "Еўрапеец года". Узнагарода даецца людзям, якія ўклалі ўнёсак у супрацу паміж народамі Еўропы для ўмацавання свабоды і міра.*

Прэмія была заснавана асацыяцыяй "Шведскі еўрапейскі рух". На сайце арганізацыі растлумачылі, што беларуску абралі невыпадкова – такім чынам яны "хочуць намінаваць усіх тых, хто змагаецца за дэмакратычную Беларусь".



"Прысуджаючы прэмію Алесі Руднік, мы хочам прыцягнуць увагу да тых, хто змагаецца за дэмакратыю ва "Усходняй Еўропе. У канчатковым рахунку, гэтая барацьба тычыцца ўсіх нас і абароны ўсёй дэмакратычнай Еўропы. Мы спадзяемся, што прызнанне працы Алесі і беларускай дыяспары можа даць больш надзеі і прызнання ўсім тым, хто працуе ў імя свабоднай і дэмакратычнай Беларусі. Гэта асабліва актуальна ў той час, калі краіна часта асацыюецца з вайной Расеі супраць Украіны", – удакладняюць на сайце асацыяцыі.

Леся Руднік была старшынёй грамадскага аб'яднання "Беларусы Швецыі", удзельнічае ў дэбатах і дэманстрацыях, даследуе алічбоўку палітыкі ў аўтакратычных рэжымах і яе ўплыў на дэмакратызацыю.

**budzma.org**

# ЗАХОДНІЯ ПАЛІТЫКІ ПАДТРЫМАЛІ МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУССЮ

*Заходнія палітыкі выступілі са словамі падтрымкі ў Міжнародны дзень салідарнасці з Беларуссю. Дэмакратычныя сілы абвясцілі яго 29 траўня, у гадавіну затрымання блогера, аўтара ютуб-канала "Краіна для жыцця" Сяргея Ціханоўскага.*




Ціханоўскага затрымалі 2 гады таму ў Гродна ў выніку правакацыі на пікеце па зборы подпісаў за вылучэнне яго жонкі кандыдатам у прэзідэнты. Яго прысудзілі да 18 гадоў узмоцненага рэжыму зняволення, прызнаўшы вінаватым у арганізацыі масавых беспарадкаў, распальванні сацыяльнай варожасці, перашкодзе працы ЦВК, арганізацыі дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

"У Міжнародны дзень салідарнасці з Беларуссю Латвія зноў заяўляе аб сваёй падтрымцы і захапленні мужнасцю і ўстойлівасцю тых, хто змагаецца за свабодную і дэмакратычную Беларусь. Воля свабоды пераможа. За свабодную Беларусь у вольным свеце! StandWithBelarus", – гаворыцца ў паведамленні латвійскага МЗС у твітары.

Еўрадэпутат Ційс Ройтэн, які прадстаўляе Нідэрланды, апублікаваў відэазапіс свайго выступу ў падтрымку беларусаў.

"Сёння Міжнародны дзень салідарнасці з Беларуссю. Важна, каб мы ўзмацнілі ціск на рэжым у Мінску. Мы пацярпелі няўдачу мінулым летам. Давайце зробім гэта цяпер. Мы цвёрда стаім за ўсіх, хто ў Беларусі і за яе межамі змагаецца за свабоду і дэмакратыю. У прыватнасці, мы думаем пра ашаламляльную колькасць палітычных зняволеных у Беларусі. Яны проста выказваліся, дапамагалі суграмадзянам, выступалі супраць тыраніі або паведамлялі пра яе. Мы з вамі. Вы вернеце сваю краіну і свабоду", – напісаў ён.

Са словамі падтрымкі выступіў дэпутат польскага Сейма, старшыня Камітэта па сувязях з палякамі за мяжой Роберт Тышкевіч.

"Сёння Міжнародны дзень салідарнасці з Беларуссю, абвешчаны Святланай Ціханоўскай у гадавіну арышту яе мужа Сяргея. Мы не павінны забываць, што народ Беларусі, нягледзячы на жорсткія рэпрэсіі рэжыму Лукашэнкі, усё яшчэ змагаецца за свабоду сваёй краіны", – заклікаў палітык.

Да Міжнароднага Дня салідарнасці з Беларуссю далучыўся дзяржсакратар ЗША Энтані Блінкен.

Міністр па еўрапейскіх справах Ірландыі Томас Бірн выступіў з заявай, у якой заклікаў вызваліць беларускіх палітвязняў.

"Я заклікаю ўсіх ірландцаў і дэмакратычна абраных прадстаўнікоў Ірландыі падтрымаць палітычных зняволеных Беларусі і справу, якую яны падтрымліваюць: дэмакратычную, справядлівую і свабодную Беларусь", – заявіў ён.

Камітэт абароны журналістаў заклікае звярнуць увагу на становішча беларускіх журналістаў.

"У гэты Міжнародны дзень салідарнасці з Беларуссю КАЖ хоча звярнуць увагу на цяжкае становішча беларускіх журналістаў: тых, хто знаходзіцца ў турме, тых, хто ў выгнанні, і тых, хто ўсё яшчэ спрабуе паведаміць праўду знутры Беларусі", – гаворыцца ў паведамленні арганізацыі, якая таксама прыводзіць даныя па журналістах у нашай краіне, якія знаходзяцца за кратамі.

"Мой муж быў ваеннапалонным, які адмовіўся быць вызваленым раней за іншых зняволеных. Святлана Ціханоўская таксама ставіць іншых на першае месца, адмаўляючыся ад прэферэнцый для свайго мужа і патрабуючы свабоды для больш за 1200 палітычных зняволеных у Беларусі. Я апладзірую яе самаадданасці і адвазе", – напісала амбасадарка ЗША пры ўстановах ААН у Рыме Сіндзі Макейн, удава сенатара-рэспубліканца Джона Макейна. Са словамі падтрымкі выступіў брытанскі міністр па справах Еўропы і Паўночнай Амерыкі Джэймс Клеверлі.

"У гэты дзень Вялікабрытанія салідарная з народам Беларусі. Беларускі рэжым павінен быць прыцягнуты да адказнасці за рэпрэсіі супраць уласнага народа, які імкнецца да дэмакратыі і вяршэнства закона", – заявіў ён.

**novychas.online**

культура

# Галіна Казіміроўская: Менавіта тут і цяпер мы адказваем за тое, як будзе існаваць ці не існаваць беларуская культура ў будучыні

"ІнБелКульт 2.0" – так называецца новая беларуская культурніцкая ініцыятыва, што пачала працу ў Варшаве. Зрэшты, сціпла называць яе ініцыятывай ужо сёння, бадай, не выпадае. Сябры арганізацыі маюць амбітны праект развіцця цэлай інстытуцыі па прамоцыі беларускай культуры ў замежжы. Пра задумкі і планы, мары і перашкоды, грошы і цікавасць публікі – наша гутарка з адной са стваральніц "ІнБелКульта 2.0", дырыжоркай Concordia Chor Галінай Казіміроўскай.



**– Відавочна, што "ІнБелКульт 2.0" ужо сваёй назвай паказвае на пераемнасць з іншай ініцыятывай амбітных беларусаў – Інбелкультам. У чым палягае гэтае наследаванне?**

– Так, відавочна, мы натхніліся Інбелкультам – той арганізацыяй, якая паўстала 100 гадоў таму на папялішчы беларускасці і зрабіла неверагодна шмат. Аб'яднала яскравых асобаў, якім балела за Беларусь, у якіх гарэлі сэрцы супольнай справай і якія за кароткі час здолелі закласці добры падмурак для развіцця беларускай адукацыі і навукі. Для мяне той Інбелкульт па значнасці, маштабе намнога вышэйшы, чым наш сённяшні, але мы сябе так называем, бо напраўду робім новую спробу аднавіць беларускасць.

Мы ў падобнай сітуацыі: адкрытай вайны нібыта няма, але, як сціркай, беларускасць сціраецца з гэтага свету: звальненні, ціск, арышты, забарона на прафесію, чорныя спісы. Нібыта нас і не было, а культуры не існуе.

Мы сёння робім спробу аднавіць найперш дух той інстытуцыі, што паўстала 100 гадоў таму, бо тут таксама сабраліся людзі, якім баліць, якім не ўсё роўна. І мы сябе адчуваем нашчадкамі пачынальнікаў, а таксама тымі, хто нясе адказнасць за будучыню. Мы менавіта тут і цяпер адказваем за тое, як будзе існаваць ці не існаваць беларуская культура ў будучыні.

Гэтым праектам мы аб'ядналі творчыя сілы беларусаў у эміграцыі. Стварылі сур'ёзную структуру, каб можна было ладзіць сістэмныя, значныя справы. І падаецца, што такое аб'яднанне мусіць пайсці толькі на карысць справе развіцця беларушчыны. Маем задумкі, якія будуць звязаныя з рэалізацыяй культурніцкіх праектаў у розных сферах: адукацыі, кнігавыдання, музыкі.

**– Інбелкульт стварыўся 100 гадоў таму як надзвычай маштабная арганізацыя з дзяржаўным размахам. Ці хопіць у вас сіл, рэсурсаў, часу, каб сапраўды ўвасобіць такі грандыёзны праект напоўніцу?**

– У нас няма дзяржаўнага рэсурсу, і мы нават не можам сказаць, ці будзе ён калісьці. Таму відавочна не ствараем такую ж арганізацыю, як 100 гадоў таму. Сярод нас няма такіх глыбаў, як Купала, Някрашэвіч, Тарашкевіч, Ігнатоўскі, якія ў свой час шмат сілаў паклалі на той праект. Што тычыцца часу: пасля перамогі, калі мы вернемся на беларускую зямлю, то Інбелкульт застанецца тут, у Польшчы, але задачы будуць перад ім стаяць іншыя.

Так, многія краіны ствараюць спецыяльныя інстытуцыі для прасоўвання ўласнай культуры за мяжой. Гэта такія месцы, куды можна прыйсці, каб вывучаць мову краіны, знаёміцца з культурай і народам. У нас жа не выклікаюць пытанняў Інстытут імя Гётэ, Шведскі, Польскі інстытуты, Асяродак гішпанскай культуры імя Сервантэса і італьянскі – імя Дантэ, што паспяхова працуюць у розных краінах свету. Але Беларускага інстытута пакуль няма, і справай яго стварэння мусіла б займацца дзяржава, каб прасоўваць сваю культуру. Але ж, на жаль, беларуская дзяржава такім не займаецца.

**– А польская? Паколькі "ІнБелКульт 2.0" заснаваны ў Польшчы і пры спрыянні польскіх уладаў, то лагічна думаць, што цікавасць з іх боку ёсць.**

– Інстытуцыя, якую мы стварылі на базе фонду "Вольнага хору", – гэта першы крок па шляху да прамоцыі беларускасці. За час у эміграцыі хор вырас, аб'яднаўшы вакол сябе іншыя праекты, іператварыўся ў фундацыю. Цяпер мы зноў расцем і прасоўваем сваю тэму ў польскіх уладных структурах, каб паўстала беларуская дзяржаўная інстытуцыя, але на польскай глебе. Іншага спосабу няма. Польшча таксама зацікаўленая ў гэтай справе. Беларусь для палякаў – краіна-суседка, пра якую тут мала ведаюць, справа будаўніцтва інстытута дапаможа пабачыць нашы агульныя кропкі, адрозненні, спазнаць беларускі край. Польскія ўлады разумеюць вартасць культуры, што гэта не проста пра душэўны рэлакс, гэта ключ да волі, філасофіі, нацыянальнай ідэі. Чаму ў Беларусі такі ціск на людзей культуры? Беларускія ўлады таксама ў нейкай ступені разумеюць моц, якой валодае песня, карціна, скульптура. Культура нясе ў сабе пасыл для будаўніцтва дэмакратычнага грамадства.

Польшча зацікаўленая ў тым, каб мець у вобразе Беларусі нармальнага суседа, развітага, вольнага. Таму палякі ўжо цяпер вельмі спрыяюць тым працэсам, што мы тут будуем. Гэта не толькі жэст міласэрнасці да беларусаў, але і будаванне мастоў.

**– А чаму вы самі не спыніліся на прыступцы хору і фундацыі? Відавочна, што і на тым этапе вам як кіраўніку працы і заняткаў хапала, а тут – яшчэ больш.**

– Мы можам тут сядзець і чакаць лепшых часоў. І, прызнаюся, я так і планавала рабіць, калі прыехала ў Варшаву. Але праз паўгода зразумела, што так жыць немагчыма, я не магу нічога не планаваць, не хачу жыць з аглядкай на стан здароўя нейкага вусатага дзеда. Таму вырашыла дзейнічаць так, як дзейнічала б, калі б Беларусь была вольная. Што б я хацела змяніць? Якія праекты зладзіць? Канечне, у паўнавартасным аб'ёме не магу іх рэалізаваць, але ж нешта можна. І гэта тыя праекты, якія я забяру з сабою ў Беларусь, калі надарыцца такая магчымасць.

Напрыклад, мы ствараем Мастацкую школу імя М. Равенскага. У нас ёсць настаўнікі, дзеці, свядомыя бацькі, то сёння і тут можна пабудаваць школу мары, такую, як нам бы хацелася. Што тычыцца інстытута, то цяпер ён працуе перадусім на падтрымку і захаванне беларускай культуры ва ўмовах эміграцыі і сярод беларусаў у Беларусі. Але калі мы пераможам, то не будзем забіраць яго з Польшчы: сам інстытут будзе тут патрэбны, проста яго задача крыху зменіцца. Тады ён будзе не захоўваць, а паказваць, папулярызаваць здабыткі беларускай культуры. У любым выпадку ў Польшчы беларуская пляцоўка, дзе можна набыць кнігу, дыск, пачуць беларускую мову, патрэбная. Спадзяюся, што іншыя краіны таксама падхопяць такую ідэю, і інстытуты будуць расці ў еўрапейскіх гарадах як грыбы.

–У Варшаве ўжо ёсць Беларускі Дом, Беларускі Моладзевы хаб, Цэнтр Беларускай Салідарнасці, Рэзідэнцыя "Дом творцаў", Варшаўскі Вольны аркестр, **дзіцячая музычная школа, хутка з'явіцца Музей Вольнай Беларусі. Якое месца ў гэтай сетцы беларускіх установ польскай сталіцы будзе займаць "ІнБелКульт 2.0"?**

– У нас такое вялікае поле! Калі я пабачу, што ўсе пытанні вырашаныя, усе мастакі, музыкі маюць працу, а дзеці маюць магчымасць вывучаць беларускую культуру, я выдыхну і падзякую Богу! Дзякуй усім, хто займаецца беларускай культурай тут, бо тут развіваецца шмат напраўду вартых праектаў. І паміж намі няма канкурэнцыі, няма спробаў кагосьці падпарадкаваць. У Варшаве працуе 21 недзяржаўны інстытут: кнігі, Пілецкага, Міцкевіча, і сярод іх няма галоўнага, яны ўсе розныя і ўсе патрэбныя. І пакуль яны патрэбныя – хай будуюцца, працуюць і развіваюцца. Мы будуем свой не насуперак, не супраць, а проста таму, што я бачу ў ім патрэбу.

Вакол мяне шмат дзеячаў культуры, якія зараз разгубленыя, не маюць магчымасці працаваць па спецыяльнасці. Разам з тым усе гэтыя ўстановы ў Варшаве пакуль не могуць забяспечыць культурнай працай усіх нашых творцаў. Для мяне гэта асабістая праблема, бо я сюды прыехала з калектывам прафесійных музыкаў, і некаторым з іх і сёння даводзіцца працаваць прыбіральшчыкамі, прадаўцамі. Атрымліваецца двайная страта: чалавек губляе сябе як прафесіянала ў культуры, і беларуская культура губляе падрыхтаванага спецыяліста. Калі такія страты становяцца тэндэнцыяй, калі я бачу, што 50 выдатных прафесіяналаў пакутуюць праз неўладкаванас-

ць, то мне за гэта вельмі баліць.

Раз я магу паспрыяць зменам у нашай галіне, то лічу сябе за гэта адказнай. Калі ёсць магчымасць збудаваць прафесійны аркестр, я буду пачынаць і прыкладаць для гэтага намаганні. Спыніцца, не рабіць можна заўсёды, а сядзець і чакаць спрыяння – не пра мяне.

У той жа час, беларусам усе нашыя праекты могуць быць не так і патрэбныя. Публікі тут не так і шмат, яны не могуць разараваццa, трапіць ва ўсе месцы. Але мы падкрэсліваем: мы адкрытыя для ўсіх, усім прапануем наша майстэрства і свой вопыт. Палякі да нас яшчэ не прыходзяць, але ўкраінцы ўжо завітваюць.

У нашых выкладчыкаў вельмі высокі ўзровень, не хочацца яго губляць. Калі мы сёння страцім гэтых спецыялістаў, то ў будучыні ў нас паўстане новае пытанне: хто іх заменіць? Нам і так будзе няпроста ў той умоўнай Новай Беларусі, але з недахопам спецыялістаў будзе яшчэ горш.

**– Ці будзе тое, што ствараецца ў Польшчы, хай сабе і ў сценах "ІнБелКульта 2.0", напраўду беларускай культурай? Вакол нас палякі, у Беларусь многія паехаць не могуць, каб натхніцца і знайсці для сябе новыя сэнсы. Ці не стане той культурніцкі прадукт адарваным ад рэальнай Беларусі?**

– Што такое беларуская культура ў нашым выпадку? Гэта наша выканальніцкае майстэрства. Яно – у асаблівасцях адукацыі, практыкі як харавога дырыжора, настаўніка. Гэта не значыць, што мы выконваем толькі беларускую музыку, бо мова гэтых твораў можа быць рознай, але я хачу несці творчасць беларускіх кампазітараў, адкрываць іх творчасць свету. Я вырасла ў Мінску ў харавой сям'і, выхоўвалася на традыцыях рускай культуры, але сама здолела стварыць беларускі хор, які цягам 15 гадоў выконваў творы менавіта беларускіх кампазітараў.

Я лічу, што ў мяне ёсць стрыжань, які і надалей дазволіць захоўваць гэтую беларускасць і несці яе ў свет. Я не з ліку тых беларусаў, хто прачнуўся ў 2020-м. Для мяне беларускасць перадусім і, каб натхніцца, не абавязкова ехаць у Беларусь. У мяне ёсць свой багаж, досвед, які ў мяне ніхто не забярэ, ёсць беларускія кнігі, ёсць беларускамоўныя сябры, і калі мне трэба спрычыніцца да беларушчыны, я размаўляю з Уладзімірам Някляевым, Лявонам Вольскім.

Цэлае асяроддзе стварылася тут, у Варшаве, дзе мы можам адно аднаго мацаваць. У Мінску я не мела столькі беларускага жыцця, колькі яго маю тут. Расчараванне, спадзяюся, не наступіць, бо гэта маё ўсё жыццё. На беларускай гісторыі, ідэі пабудавана мая прафесійная дзейнасць. Наўрад ці буду рабіць нешта іншае, апроч беларускай музыкі.

**– Вы ўжо адзначалі, што беларускіх устаноў у Варшаве адкрываецца многа, і можа здарыцца так, што хутка прапанова беларускага культурніцкага поля перавысіць попыт. Як можна пашыраць колькасць публікі?**

– Нам перадусім варта палюбіць саміх сябе, ганарыцца сабой і не пераставаць пра сябе казаць. І потым нас палюбяць іншыя. Не думаю, што палякі да нас адразу прыйдуць. Але тут можа дапамагчы "сарафаннае радыё", і наш прафесіяналізм стане менавіта тым фактарам, што яго "ўключыць". Так, калі ёсць класная школа, выдатны настаўнік, то варта рабіць стаўку менавіта на майстэрства, а не на нацыянальнасць. Я не веру ў сацсеткі і рэкламу, лічу, што мая праца будзе казаць сама за сябе. На сёння ў нас ужо ёсць вучні, тыя, хто бачыць патрэбу ў нашых паслугах. Мы, беларусы, звыкліся працаваць, вучыцца ў розных умовах, не так і важна, хай гэта будзе сутарэнне ці нейкі дворык. А палякам істотны камфорт, уладкаванасць, запланаванасць. Магчыма, калі мы самі вырасцем і станем сур'ёзным цэнтрам, то да нас прыйдуць.

**– Адкуль столькі грошай на гэты праект? Відавочна, што гэта досыць вялікая праца з вялікім бюджэтам.**

– Мы заснавалі фундацыю, каб самастойна шукаць фінансаванне для нашых праектаў. Для польскіх дамоў культуры, цэнтраў звычайная справа падаваць заяўкі на гранты і самім шукаць грошы. Яны на розных праграмах здабываюць сродкі, і мы ідзем па такім жа шляху. А пакуль – музычная школа існуе з падтрымкі беларускіх бізнесоўцаў, памяшканне – у Старамейскім доме культуры – Польшча прадаставіла бясплатна. Хор і акцёрская студыя для дзяцей бясплатныя, мы знайшлі фундатараў, што дапамагаюць з заробкамі для настаўнікаў. Некаторыя заняткі аплочваюць самі вучні. Групавыя студыі мы прынцыпова зрабілі бясплатнымі, каб прыйсці сюды была магчымасць у кожнай сям'і. Беларусам тут няпроста выжываць, і на ўсе гурткі не запішашся, асабліва маючы некалькі дзяцей. Для дзяцей пабываць на рэпетыцыі хору, тэатральнай студыі – вялікае шчасце. Калі мы іх збіраем разам, яны знаёмяцца, размаўляюць па-беларуску, то гэта вялікая справа. Для нас важна таксама не страціць увагу падлеткаў, бо з імі вельмі складана працаваць, таму ствараем шэраг студый – фота, кіно, мультыплікацыі, куды маглі б хадзіць менавіта тынэйджары.

**– Хто яшчэ ўваходзіць у "Інбелкульт 2.0"? Хто актыўна ўключаны ў яго працу ўжо сёння?**

– Назаву толькі некаторых сяброў і партнёраў, з кім працуем ужо сёння. Гэта дырэктарка Інстытута Пілецкага ў Берліне Ханна Радзеёўска, якая ладзіць шмат праектаў у Берліне і тут, у Варшаве. Аліна Коўшык, журналістка і сузаснавальніца Цэнтра Беларускай Салідарнасці. З намі сімфанічны дырыжор Іван Касцяхін, які быў звольнены з Опернага тэатра ў Мінску, з ім будзем ствараць беларускую капэлу. Святлана Зелянкоўская будзе адраджаць гурт "Госьціца". З намі знаны фатограф Андрэй Лянкевіч, "купалаўцы" Крысціна Дробыш і Алег Гарбуз... Тут сабралася выдатная каманда, якая, я ўпэўненая, здолее зрабіць шмат важнага.

**– Што ў бліжэйшых планах?**

– Іх так многа, што я нават не ведаю, як здолець усё паспець! Хочам адкрыць новыя гурткі для дарослых: курсы гісторыі беларускай музычнай літаратуры і заняткі акцёрскім майстэрствам. Плануем зладзіць некалькі летніх інтэнсіваў для дарослых і дзяцей, дзе будзем выкладаць вакал, інстурмент, сальфеджыа, акцёрскія эцюды, дзе можна будзе і развіваць майстэрства, і пазнаёміць людзей паміж сабой. У Польшчы такіх праектаў хапае, але беларусам, якія вымушаныя былі сюды пераехаць, псіхалагічна не так і проста пайсці на заняткі ў цалкам чужы асяродак. Беларусы цягнуцца адно да аднаго. Таму там, дзе свае, больш верагодна, час пойдзе на карысць. Нас запрасілі на польскі фестываль Манюшкі, дзе пакажам яго і як нашага, беларускага, кампазітара. Таксама ўвосень паедзем на Бетховенфэст у Бон, дзе раней ніколі не было беларускага хору.

Івэнтаў вельмі многа, шмат і планаў таго, што будзем ладзіць стала, рабіць стала, калі ў гэтым будзе патрэба.

Я б хацела дабрацца да тых беларусаў, хто яшчэ не прачнуўся, хто лянуецца нешта новае зрабіць. І не ідзе гаворка пра тое, што буду нешта навязваць. Лічу, варта паказаць, што і гэтая грань рэчаіснасці існуе. Як з кнігай: пакуль не пачнеш чытаць, то не зразумееш, наколькі яна цікавая.

**– Чаму беларусам штораз, кожнаму пакаленню, трэба раскрываць у сабе беларускасць? Вось і вы кажаце пра тое, што трэба, каб беларусы прачнуліся.**

– Гэта наш праклён, нібыта мы завіслі, як у камп'ютарнай гульні, на ўзроўні 100 гадоў таму. За што змагаліся нашы пачынальнікі ў пачатку XX ст.? Людзьмі звацца. І за гэтае стагоддзе нічога не змянілася. Хочацца ўжо проста будаваць, нармальна жыць і развівацца, але даводзіцца змагацца за сябе, за сваю беларускасць. Мо, калі мы справімся, то будзем вельмі такім класным краем, а цяпер проста трэба прайсці гэтае выпрабаванне?

Трэба выпрацоўваць ген самастойнасці, змагання за сябе і сваю культуру. 2020 год даў надзею, што нешта можа здарыцца, так, мы цярплівыя, інтэлігентныя, тонкія, але і агеньчык у нас усё ж ёсць.

Нават разумеючы нашу павольнасць, чаканне нейкага штуршка звонку, я вельмі люблю беларусаў.

Марына Весялуха, budzma.org
Фота: Яўген Канаплёў-Лейдзік



Дырэктарка Інстытута Пілецкага ў Берліне Ханна Радзеёўска, Галіна Казіміроўская, журналістка і сузаснавальніца Цэнтра Беларускай Салідарнасці Аліна Коўшык

**дабрачыннасць**

# "НЕ ВЕРУ Ў ДЗЯРЖАВУ, ВЕРУ Ў ДАПАМОГУ ЗВЫЧАЙНЫХ ЛЮДЗЕЙ"

Чаму дапамагаць украінцам – так важна? І ці абавязкова быць чыноўнікам ці мільянерам, каб зладзіць дапамагу сотням і тысячам людзей? Ці можам мы сёння, калі ў суседзяў вайна, святкаваць Дзень перамогі? Пра гэта і не толькі ў гутарцы з Паўлам Кірылёнкам, які проста цяпер валанцёрыць на карысць уцекачоў-украінцаў у Каталоніі.

Наш суразмоўца нарадзіўся ў Бабруйску, але 22 гады таму мусіў з'ехаць з Беларусі пасля ўдзелу ў "Маршы свабоды-1999". Спачатку атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі, адтуль перабраўся ў Каталонію, дзе і жыве апошнія 15 год.

У Барселоне Павел разам з жонкай спярша меў невялікі арт-бізнес, а пасля перайшоў у сферу турызму. Апошнія некалькі год ён працуе гідам-экскурсаводам па Каталоніі, у тым ліку ў тэме гастранамічнага турызму. Ад 22 сакавіка – працуе ў валанцёрскім цэнтры дапамогі бежанцам, які сам і арганізаваў.

– Напэўна, я скажу банальнасць, але калі пачалася вайна ва Украіне, не толькі ў мяне, а шмат у каго было адчуванне: трэба нешта рабіць! Бо проста глядзець на тое, што адбывалася, немагчыма. Сітуацыя цяжкая, асабліва на фоне разумення таго, што краіна, з якой я паходжу, у гэтай вайне дэфакта з'яўляецца агрэсарам. З такім цяжка прымірыцца, – тлумачыць Павел.

– Яшчэ адзін штуршок дало тое, што вельмі шмат уцекачоў з Украіны пачалі прыязджаць у Каталонію. Гэта людзі, што засталіся без жытла, якія беглі ад бамбаванняў і нічога не маюць. У асноўным гэта жанчыны з дзецьмі.

Так, для іх ёсць пэўная падтрымка з боку дзяржавы, але яна мае свае дзіркі. Мясцовыя ўлады не робяць усё, што належыць. Уцекачы маюць патрэбу ў пэўных базавых рэчах, у некаторых выпадках ім банальна не стае харчавання...

Я наагул не веру ў дзяржаву – гэта мая асабістая пазіцыя. А веру ў дапамогу простых людзей. Гэта больш эфектыўна, калі адзін дапамагае другому.

Пачаў з таго, што зрабіў пост у фэйсбуку, кшталту: "Грамада, ёсць праблема, якую трэба вырашыць". І шмат з тых, хто жыве ў Барселоне, адгукнуліся, так пачалася наша валанцёрская дзейнасць. Выявілася, што многія з дыяспараў – беларускай, украінскай, расейскай – хочуць нешта рабіць, бо адчуваюць прыблізна тое ж, што і я: трэба дзейнічаць!

Нельга сядзець і рабіць выгляд, што жыццё ідзе, як і раней.

Акрамя дапамогі ўкраінцам, Павел запусціў важны для ўсіх нас праект – суполку ў тэлеграме "Беларусы з Украінай". Яе мэта – расказваць пра добрыя справы, якія робяць нашы суайчыннікі – валанцёраць, данацяць, абараняюць мірных жыхароў.

– Я зрабіў такі канал, бо ў пачатку вайны сітуацыя была маральна вельмі цяжкая. Многія ўкраінцы лічылі беларусаў агрэсарамі, пыталі: "За што ж вы так з намі абышліся, чаму з вашай тэрыторыі на нас лятуць ракеты, самалёты, заходзяць расейскія войскі?" Было зразумела, што трэба неяк паказаць – гэта не беларусы робяць, бо мы не хочам ваяваць з Украінай, а гэта ўлады падтрымліваюць расейскую агрэсію.

Калі суполка "Беларусы з Украінай" стала крыху папулярнай, з'явіліся людзі, якія захацелі ёй займацца. То бок, асабіста цяпер яе не вяду. А пасля ўжо стварaліся шматлікія ініцыятывы на гэтую ж тэму, што мелі на мэце паказаць: звычайныя беларусы не хочуць ваяваць, а наадварот, падтрымліваюць украінцаў.



Павел з валанцёркамі.

– Ці ўдалося пераканаць украінцаў у тым, што звычайныя беларусы для іх не ворагі? Думаю, удалося. Але разумею, што гэта адбылося не дзякуючы майму ТГ-каналу ці валанцёрству. Перш за ўсё дзякуючы таму, што з'явіўся батальён Каліноўскага, хлопцы з якога ваююць на баку Украіны, а таксама дзякуючы рэйкавым партызанам, у тым ліку бабруйскім. Інфармацыя пра іх вельмі добра распаўсюджвалася па ўкраінскіх СМІ, і ўсё гэта паказала – народ разам з імі. Бо ў Расеі нічога падобнага не было, яны не вялі рэйкавыя войны, не стварылі батальён, які б дапамагаў украінцам.

– Часу ў мяне не хапае ні на што, бо ёсць праца, ёсць сям'я, ёсць валанцёрства. Усё складана. Але так атрымалася, што я запусціў пэўныя працэсы, і лік ідзе на сотні людзей, якія ўдзельнічаюць у нашым руху і лічаць мяне ўмоўным лідарам. Яны хочуць, каб я рабіў пэўныя рэчы, таму я не магу ўсё гэта кінуць і сказаць: "А давайце далей самі, а я тут пайду сабе на жыццё зарабляць". Не, я так не магу зрабіць, бо існуе праблема, якую трэба вырашаць.

Гэта трэба рабіць не толькі таму, што мая радзіма – суагрэсар. А проста таму, што мы мусім дапамагаць тым, хто мае патрэбу. [...]

– Кожны і кожная з уцекачоў ад вайны, якім мы сёння дапамагаем – гэта асобная, шчымлівая гісторыя. 90 адсоткаў – жанчыны з дзецьмі, гэта акурат тая сацыяльная група, якой вельмі патрэбная дапамога.

У нас ёсць валанцёры, якія самі тыдзень таму беглі ад вайны, сядзелі ў бамбасховішчах, а сёння прыходзяць да нас і кажуць: "Мы хочам нешта карыснае рабіць".

Напрыклад, маладая сям'я з Марыупаля, месяц яны былі пад акупацыяй, прайшлі ўсю гэтую жудасную гісторыю з бамбаваннем, з тым, што ім даводзілася гатаваць ежу на вогнішчах у дварах... Яны дабіраліся да Каталоніі праз захопленыя расейцамі тэрыторыі, праз неверагодную небяспеку для жыцця. І першае, што яны зрабілі – прыйшлі да нас, каб дапамагаць іншым!

Гэта прыклад таго, як людзі застаюцца героямі ў самых цяжкіх сітуацыях.

І такіх гісторый вельмі шмат.

Пастаянна чуеш гэтыя размовы. Людзі з Адэсы абмяркоўваюць, які раён бамбілі ўчора, які сёння, у каго дзе бацькі жывуць... Гэта цяжка, але гэта дае разуменне: тое, што мы робім – мае сэнс.

– Безумоўна, гумар дапамагае не зляцець з катушак. Неяк прыходзіць да нас у валанцёрскі цэнтр сям'я ўцекачоў, паглядзелі і кажуць: "У вас тут так добра ўсё арганізавана, амаль як у нас у харкаўскім бамбасховішчы!"

І я таксама спрабую з усіх цяжкіх сітуацый выходзіць менавіта праз гумар. Не лічу, што ёсць нейкія забароненыя тэмы, на якія нельга жартаваць, таму што смех – ратуе. Ён дазваляе спраўляцца з цяжкімі сітуацыямі. І, магчыма, гэта нас, бабруйцаў, робіць падобнымі да адэсітаў.

Пазітыў неверагодна важны, трэба яго захоўваць.

– Ці можна цяпер беларусам святкаваць Дзень перамогі, калі побач ідзе крывавая вайна, на якой гінуць мірныя жыхары? Канечне, не.

Таму што дэ-факта мы самі з'яўляемся краінай-агрэсарам.

Беларускія ўлады пачалі рабіць культ з гэтага свята, паразітаваць на тэме перамогі, яшчэ раней за расейскія. І гэта праблема, бо яны з памятнай даты зрабілі сорам, і прыстойнаму чалавеку ўжо немагчыма гэта святкаваць.

Нам казалі, што трэба памятаць пра вайну, каб яна не паўтарылася, але выявілася, што гэта абсалютная хлусня!

Узгадваю, як у дзевяцігадовым узросце мяне прынялі ў піянеры, і мы хадзілі да ветэранаў... Ужо тады я разумеў, што ўсё гэта проста рытуал, фальш. Адзіная мэта якога – кантроль над розумам людзей. Мы ўсе ведаем гісторыю Другой сусветнай вайны, ведаем, што там адбывалася, і не маем сумневаў у тым, што гэта жудасна. Але рабіць з гэтага свята, культ? Парадокс у тым, што чым далей дата вайны, тым з большым размахам святкуюцца Дні перамогі. Я ніколі не мог зразумець, чаму так? Чаму мой дзядуля, які прайшоў вайну, ніколі гэты дзень не святкаваў, а наступныя пакаленні – рабілі гэта з такім пафасам?

Гэта навязванне ідэалогіі "пераможцаў" – абсалютная маніпуляцыя. Гісторыя мусіць быць гісторыяй, а не культам. Яе трэба вывучаць. Асэнсоўваць. Сакралізацыя вайны выглядае вельмі небяспечнай.

budzma.org паводле "1387"

# АКТОРКІ З ГРОДНА ПАСТАВІЛІ Ў ПОЛЬШЧЫ КАЗКУ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ І ЎКРАІНСКІХ ДЗЯЦЕЙ

Звольненыя з Гродзенскага драматычнага тэатра акторкі Ірына Купчанка і Лізавета Мілінцэвіч арганізавалі пастаноўку для дзяцей беларускіх і ўкраінскіх уцекачоў у Сопаце. Прэм'ера казкі "Шкодная гісторыя" прайшла 1 траўня ў памяшканні Аб'яднання беларусаў Памор'я.

Спектакль паказалі два разы цягам траўня ў зале на 50 месцаў. Білеты на другі паказ разабралі за тры дні. Акторкі плануюць і надалей рабіць пастаноўкі ў межах праекта "Тэатр без назвы".

"Найважнейшае для мяне – як перажывала эмоцыі [дачка] Соня, – расказала глядачка спектакля, Наталля з Беларусі. – Яна недзе і хвалявалася, закрывала вочкі, і радавалася, калі ўсё было добра. Вялікая падзяка акторам за гэта. Мне здаецца, што такіх мерапрыемстваў не хапала ў Труймесце, каб прыйсці разам з дзецьмі".

Вярнуліся ў прафесію праз два гады – эмоцыі перапаўняюць

Лізавета Мілінцэвіч пераехала з Гродна ў Гданьск у 2020-м, калі яе звольнілі з тэатра. У Польшчы акторка спрабавала сябе ў розных прафесіях – ад бармэна да SMM-спецыяліста.

Ірына Купчанка пераехала ў Гданьск у 2021 годзе. Цягам трох месяцаў акторка працавала ў таксі. Для абедзвюх гэта першы выступ за межамі Беларусі з 2020 года.

"Гэта першая пастаноўка амаль за два гады. Эмоцыі перапаўняюць. Увесь гэты час мне вельмі не хапала сцэны, – расказала Лізавета Мілінцэвіч. – Я вельмі хвалявалася. Не ведала, колькі прыйдзе людзей, ці яны зацікаўлены ў такіх спектаклях".

Усё рыхтавалі самі

"Цяжкасць была ў тым, што мы не толькі ігралі, але адказвалі таксама за ўсё астатняе – харэаграфію, рэквізіт, музыку", – распавяла Ірына Купчанка. Для пастаноўкі спектакля яна вырашыла працягнуць свой гродзенскі праект "Тэатр без назвы". Зараз ён пачынае дзейнічаць у Труймясце.

"Рэквізіт збіралі са свеце па кроплі. Я сама пашыла навалачкі, алоўкі нам зрабіў знаёмы, адзенне купілі ў сэканд-хэндзе".

Па словах актарак, яны хваляваліся, як упершыню: "Мы не ведаем яшчэ гледача. Калі ў драмтэатры атмасфера для нас ужо была знаёмая, то тут мы толькі знаёмімся".

Вырашылі ставіць казку, каб падтрымаць дзяцей

Калі сур'ёзна, то аргументам Лізаветы стала дапамога ў адаптацыі дзецям з Беларусі і Украіны: "У Гданьску недастаткова падобных мерапрыемстваў для дзяцей рэлакантаў. Многія сем'і, каторыя прыехалі ў Трумяста, яшчэ не паспелі вывучыць польскую мову. Важна даць ім магчымасць далучацца да мерапрыемстваў на той мове, да якой яны прывыклі. Гэта дапамагае адаптацыі на новым месцы".



"Дзеці зараз самыя неабароненыя, – кажа Ірына Купчанка. – Яны засталіся амаль без увагі, таму што большасць праектаў і сіл зараз накіраваны на барацьбу з вайной, валанцёрства, салідарнасць. Таму я вырашыла, што першай пастаноўкай будзе менавіта казка".

budzma.org паводле "Тётя Ира Разрешила"

## НАРВЕГІЯ ЗАРАЗ АФІЦЫЙНА НАЗЫВАЕ НАШУ КРАІНУ БЕЛАРУСЬ

Нарвегія афіцыйна мяняе назву нашай краіны з "Hviterussland" (перакладаецца як "Белая Расія") на Belarus.

Правільная назва будзе выкарыстоўваць і МЗС Нарвегіі, паведамляецца на сайце ўрада гэтай краіны. Змена назвы адбываецца ў Міжнародны дзень салідарнасці з Беларуссю.

"Мы лічым правільнай змяніць назву краіны ў знак салідарнасці з беларускім дэмакратычным рухам", – кажа прэм'ер-міністр Ёнас Гар Стэрэ.

На сайце ўрада сказана, што акцэнт на тым, што назвы "Беларусь" і "беларусы" рэзка адрозніваюцца ад назваў "Расія" і "рускія", з'яўляецца важным сімвалічным пытаннем для беларускага дэмакратычнага руху, якое сутыкаецца з усё больш складанымі ўмовамі. Блізкасць да зыходнай мовы з'яўляецца важным фактарам пры вызначэнні замежных тапонімаў на нарвежскай мове.

budzma.org

**вайна**

## ЯК МОЖНА ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЕ

**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**



**2. Збор сродкаў у Польшчы**



**3. "Беларускі моладзевы хаб" збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**



**4. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**





навіны

# БЕЛАРУСКА ЛІЛІЯ ЯНОЎСКАЯ ЎЗНЯЛА БЕЛАРУСКІ СЦЯГ НА ЭВЕРЭСТ

Беларуска Лілія Яноўская падняла беларускі сцяг на Эверэст. Разам з дачкой Дар'яй у складзе каманды альпіністаў яна паднялася на самую высокую вяршыню свету 14 мая.

"Мы неслі беларускі нацыянальны, украінскі і канадскі сцягі ўсю дарогу", – напісала яна пазней у сацсетках. Гэтыя сцягі яны і разгарнулі на вяршыні. Паводле слоў Ліліі, яна верыць "у любоў, спачуванне і разуменне паміж людзьмі ў гэтым свеце. Любоў, праўда і свабода пераможуць".

Гэта ўжо не першая спроба беларускі скарыць Эверэст. Год таму яна была гатовая падняцца на вяршыню, але захварэла на каранавірус.

"Мне шкада, што БЧБ-сцяг так і не быў узняты сёлета над Эверэстам. Але вяршыня нікуды не дзенецца. Гэта абавязкова адбудзецца", – гаварыла яна тады.

Лілія Яноўская нарадзілася ў Івянцы, жыла ў Мінску. У 1990-я сям'я Яноўскай эміґравала ў Канаду. У яе два пашпарты, канадскі і беларускі. Пасля нараджэння трэцяй унучкі Лілія захапілася альпінізмам – ёй тады было 50.

Сярод заваяваных вяршыняў – Аканкагуа (6962 м, найвышэйшы пік у Паўднёвай Амерыцы), гара Матэрхорн у Швейцарыі (4478 м), Рэйнір ў ЗША, стратавулканы ў Перу, Мексіцы і Эквадоры.

"Еўрарадыё"

# КАЛЕСНІКАВАЙ, ЦІХАНОЎСКАЙ І ЦАПКАЛА ЎРУЧЫЛІ ПРЭМІЮ ІМЯ КАРЛА ВЯЛІКАГА

Марыя Калеснікава, Святлана Ціханоўская і Вераніка Цапкала атрымалі прэстыжную міжнародную прэмію імя Карла Вялікага. Гэта першы выпадак у гісторыі, калі яе ўручаюць беларусам, піша тэлеграм-канал каманды Віктара Бабарыкі.

Уручэнне прэміі адбылося ў каранацыйнай залі ратушы нямецкага горада Аахена. Прэмію ад імя Марыі Калеснікавай, якая знаходзіцца ў беларускай турме, атрымала яе сястра Тацяна Хоміч.

Марыя Калеснікава, Святлана Ціханоўская і Вераніка Цапкала ўганараваныя гэтай прэміяй за мужнасць, барацьбу за свабоду і дэмакратыю, за правы чалавека і тым самым за еўрапейскія каштоўнасці, заявіў раней кіраўнік рады прэміі ў Аахене Юрген Ліндэн.




Паводле ягоных слоў, лідаркі беларускай апазіцыі Ціханоўская, Калеснікава і Цапкала – "непаўторны прыклад" барацьбы супраць дыктатуры, падаўлення і неправавой дзяржавы.

Міжнародная прэмія імя Карла Вялікага – адна з найбольш значных еўрапейскіх узнагарод, яна ўручаецца з 1950 году людзям і арганізацыям за іх вядучую ролю ў аб'яднанні Еўропы. У 2019 годзе прэмія была ўручана генеральнаму сакратару ААН Антонію Гутэрышу, за год да гэтага – прэзідэнту Францыі Эмануэлю Макрону, у 2017-м узнагароду атрымаў брытанскі гісторык Тымаці Гартан Эш, а ў 2016-м – папа Рымскі Францішак.

Раней Марыя Калеснікава, Святлана Ціханоўская і Вераніка Цапкала атрымлівалі іншыя міжнародныя прэміі за сваё змаганне за свабоду слова, думкі і волю да дэмакратычных пераменаў у Беларусі.

novychas.online

## Беларускі каляндар памятных дат на чэрвень 2022 года

**2 чэрвеня**
- 105 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Міхаіл Мацукевіч (у манастве Мікалай), архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. Памёр у 2002-м.

**4 чэрвеня**
- 175 гадоў таму, у 1847-м, памёр Стафан Грабоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г.
- 70 гадоў таму, у 1952-м, памёр Язэп Варонка, дзеяч эміграцыі ў ЗША, першы прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі (1918).

**6 чэрвеня**
- 40 гадоў таму, у 1982-м, памёр Язэп Малецкі, грамадскі дзеяч, медык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**10 чэрвеня**
- 210 гадоў таму, у 1812-м, у Полацку адкрыта езуіцкая акадэмія.
- 40 гадоў таму, у 1982-м, памёр Ян Садоўскі, скарыназнавец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Канадзе.

**14 чэрвеня**
- 155 гадоў таму, у 1867-м, нарадзіўся Мітрафан Доўнар-Запольскі, адзін з заснавальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі. Памёр у 1934-м.
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Анатоль Сумны (сапр. Кунцэвіч), паэт, святар, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**18 чэрвеня**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, памёр Аляксей Бялыніцкі-Біруля, заолаг і географ.
- 65 гадоў таму, у 1957-м, памёр Вітольд Бялыніцкі-Біруля, мастак.

**19 чэрвеня**
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Пятро Бітэль, пісьменнік, праваслаўны святар. Памёр у 1991-м.
- 30 гадоў таму, у 1992-м, памёр Валерый Слюнчанка, гісторык архітэктуры.

**20 чэрвеня**
- 20 гадоў таму, у 2002-м, памёр Міхаіл Мацукевіч (у манастве Мікалай), архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

**23 чэрвеня**
- 75 гадоў таму, у 1947-м, памёр Уладзімір Пічэта, гісторык, першы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**24 чэрвеня**
- 255 гадоў таму, у 1767-м, нарадзіўся Стафан Грабоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г. Памёр у 1847-м.

**26 чэрвеня**
- 125 гадоў таму, у 1897-м, нарадзіўся Лявон Савёнак, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1974-м.

**28 чэрвеня**
- 80 гадоў таму, у 1942-м, загінуў Янка Купала, народны паэт Беларусі.

**Беларусы ў свеце**
№ 5 (240), май 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com